# Бацькаўшчына

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“ — Цана 1 н. м.

№ 3 (6) — 8 лютага 1948 г. — год выданьня 2

# ЦЁМНЫЯ СІЛЫ ВАРУШАЦЦА

## ГАНДЫ ЗАСТРЭЛЕНЫ

**Нью-Дэлі (ДЭНА-Рэйтар).** 30-га студзеня ў Нью-Дэлі застрэлены ведамы індускі змагар і філёзаф **Магатма Ганды.**

Як падае адзін сьветка, каля 500 чалавек чакалі на Ганды, каб пачаць гадзіну малітвы. Ганды йшоў да невялічкай дрыўлянай пляцформы, зь якой ён звычайна прамаўляў. Калі ён наблізіўся да людзкой масы, натоўп раздаўся, каб даць яму дарогу. Адзін малады чалавек, апранены ў марынарку колеру хакі, даў чатыры стрэлы. На белай вопратцы Ганды зьявіліся вялікія крывавыя плямы. Колькі жанчынаў кінулася паддтрымаць яго. Ён упаў, прастрэлены ў грудзі. Стрэлы былі дадзеныя вельмі зблізку. Колькі асобаў з натоўпу хапіла забойцу й моцна трымала яго да прыбыцьця паліцыі.

Забойцу Ганды 36 год, ён завецца Год. Гэты «радыкальна настроены» гіндус добра гаворыць па ангельску. Паміраючы, Ганды заклікаў паліцыю не абыходзіцца сувора з забойцам.

Забойства Ганды ўразіла Індыю, як цяжкі ўдар. Гэта больш, як нацыянальная трагедыя. Для 200 міліёнаў індусаў гэта — забойства бога. «Забіць Ганды — гэта забіць душу Індыі», — заявіў галава індускага ўраду Пандыт Нэру.

Пры ўдзеле вялікай масы людзей адбылося пахаваньне Ганды паводля ўсіх гіндускіх абрадкаў. На мядзянай урне зь ягоным попелам напісана слова «Рам» (бог).

Паліцыя дасьледуе справу змовы, да якое належыў забойца Ганды й мэтаю якой было забіць ня толькі Ганды, але й яшчэ іншых індускіх перадавых дзеячоў.

## ЦЕМРА Й ЗША СОЧЫЦЬ

### ЦЁМНЫЯ СІЛЫ ПЛЯНУЮЦЬ ПЕРАВАРОТ У ЗША

**Вашынгтон (ДЭНА-ІНС).** Прамоўца амэрыканскага кангрэсу, Джо Мартын, заявіў, што «цёмныя сілы у ЗША змовіліся скінуць урад».

Мартын сьцьвярджае, што мэта гэтых плянаў — найперш абязуладніць кангрэс, а тады сканцэнтраваць удары вылучна на асобе найвышэйшага кіраўніка ўраду. Калі-б гэта было дасягнутае, кажа Мартын, тады для сабатажнікаў было-б лёгкай справай павесьці разбуральную кампанію супраць выканальнай улады, зрабіць гаспадарстваўскі пераварот і захапіць уладу ў свае рукі.

«Гадамі тысячы мужчынаў і жанчынаў ахоўвала нашая нацыя, — сказаў прамоўца, — якія сабатавалі нашую амэрыканскую свабодную сыстэму й імкнуліся паставіць наш урад пад кіраўніцтва чужой ідэялёгіі й замежнай клікі валадароў... Мы не павінны ніколі забывацца, што ў Савецкім Саюзе невялікая мяншыня пanявольвае вялікую бальшыню, і то зь вялікай удачай».

### КАМІНФОРМ НАПАДАЕ

**Белград (ДЭНА-Рэйтар).** У перадавым артыкуле № 6 часапісу камінформу да прапановы заходня-эўрапейскае вуніі піша, што брытанскі міністар замежных справаў Бэвін маніцца стацца «эўрапейскім гаўляйтэрам Амэрыкі». Гэта, аднак, трывала-б адно датуль, пакуль ЗША ня прызналі-б за пaтрэбнае замяніць яго якім-небудзь амэрыканскім генэралам. Артыкул напісаны чэхаславацкім камуністым Янам Марэкам.

## БЕДНЫЯ ДУШЫ...

### МАРШАЛ САКАЛОЎСКІ ТУРБУЕЦЦА

**Бэрлін (ДЭНА).** Савецкі галоўнакамандуючы ў Нямеччыне, маршал Сакалоўскі, сьціраваў ліст да амэрыканскага вайсковага губэрнатара Нямеччыны генэрала Л. Д. Клея, у якім вымагае даведак пра 206 савецкіх грамадзянаў, што зьняволеныя ў турме баварскага гораду Штраўбінгу, і адначасна дамагаецца, каб савецкай вайсковай адміністрацыі былі перададзеныя сьпісы засуджаных Амэрыканцамі савецкіх грамадзянаў і весткі пра асновы іхнага засуджэньня. Маршал Сакалоўскі зазначае ў сваім лісьце, што спосаб дзеяньня амэрыканскіх вайсковых уладаў супярэчыць умове ад 11. 2. 1945 г., якая прадугледжвала рэпатрыяцыю вызваленых аліянцкімі аддзеламі ваеннапалонных і цывільных асобаў. Заміж гэтага, савецкіх падданых судзяць, не дазваляючы ім адпаведна бараніцца, і прысуджаюць да караў, куды большых супраць дапушчаных імі ўчынкаў. Гэтак, быццам-бы 30 асобаў засуджаныя на кару сьмерці праз расстрэл, 68-на дажыцьцёвае зьняволеньне й рэшта да пазбаўленьня волі ад 10 да 15 год.

У лісьце падаюцца прыклады быццам-бы несправядлівага пакараньня. Так, між іншага, Сакалоўскі цьвердзіць, быццам савецкі грамадзянін (?) Станіслаў Янавіч Рыклік ізь Львова, вывезены немцамі ў Нямеччыну ў 1942 г., засуджаны на дажыцьцёвае зьняволеньне за пераховўваньне зброі, а народжаны ў Смаленску і ў 1944 г. вывезены ў Нямеччыну Аляксандар Ігнатавіч Кэмпа прысуджаны на 20 год турмы за пераход мяжы між францускай і амэрыканскай зонамі.

«Савецкае камандваньне дамагаецца спыніць заразжа выкананьне прысудаў амэрыканскага вайсковага суда над названымі 206 савецкімі грамадзянамі, зьняволенымі ў штраўбінгскай турме», — літаральна гэтак піша ў лісьце Сакалоўскі. Далей ён зазначае, што й цяпер даходзяць ведамкі, быццам савецкія грамадзяне-перамяшчэнцы, якія выказваюць жаданьне зьвярнуцца на бацькаўшчыну, ёсьць таксама яшчэ і ў іншых турмах амэрыканскае зоны.

### ГЭНЭРАЛ КЛЕЙ АДКАЗВАЕ

**Бэрлін (ДЭНА).** У сваім адказным лісьце савецкаму галоўнакамандуючаму ў Нямеччыне маршалу Сакалоўскаму амэрыканскі вайсковы губарнатар Нямеччыны, генэрал Л. Д. Клей, заяўляе, што успомненыя Сакалоўскім у ягоным лісьце падрабязнасьці пра быццам-бы няпраўнае зьняволеньне савецкіх грамадзянаў не адпавядаюць фактам.

У сваім лісьце ген. Клей сьцьвярджае, што ўспомненыя Сакалоўскім тры савецкія падданыя зрабілі злачынствы аніяк не маленькія, а асабліва цяжкія. Што да далейшага дасьледваньня ўспомненых маршалам Сакалоўскім падрабязнасьцяў амэрыканскі вайсковы губэрнатар просіць дакладнага зазначэньня канкрэтных выпадкаў «несправядлівага засуджэньня савецкіх грамадзянаў».

Як далей падаецца, лік савецкіх грамадзянаў у штраўбінгскай турме далёка меншы за пададзены ў лісьце Сакалоўскага.

### САМІ САБЕ ПАМАГАЮЦЬ...

**Мюнхэн (Дэна).** — Каля міліёну работнікаў і службоўцаў узялі ўдзел у 24-гадзіннай забастоўцы пратэсту супраць крытычнага харчовага палажэньня ў Баварыі. Жыцьцёваважныя прадпрыёмствы й прадпрыёмствы амэрыканскага вайсковага кіраўніцтва, а таксама рамесьнікі-саматужнікі, не ўзялі ўдзелу ў забастоўцы. Усе чыгункі на час забастоўкі спынілі рух. Хадзілі толькі цягнікі акупацыйных уладаў. Як паведамляе баварскі ўрад, гэтая забастоўка каштавала Баварыі прыблізна 27 міліёнаў марак.

### АПОШНІМ ЧАСАМ

* СССР пачаў апошнім часам закідаць ЗША дыплёматычнымі пратэстамі. Пададзеныя пратэсты супраць уладжаньня амэрыканскіх паветраных базаў у Трыпалітаніі, супраць знаходжаньня амэрыканскіх ваенных караблёў у італьлянскіх водах Міжземнага мора, супраць дзейнасьці амэрыканскай ваеннай місіі ў Іране, супраць амэрыканскай паветранай дзейнасьці ў японскім Жоўтым моры. Наверх яшчэ газэта «Красная Звезда» вінавацiць ЗША ў імкненьні ператварыць Данію ў сваю ваееную базу...

* Грэцкі партызанскі «гэнэрал» Маркос заявіў на паседжаньні свайго партызанскага ўраду, што ваеннае палажэньне паўстанцаў у паўночнай Грэцыі крытычнае, хоць яны й выканалі шмат дзіву годных чынаў.

* Фінская паліцыя «прачышчаная», прычым на загад камуністычнага міністра нутраных справаў звольнена больш за 200 «палітычна незарыентаваных» паліцыянтаў.

## АНТЫБАЛЬШАВІЗМ і АНТЫФАШЫЗМ

У папярэднім нумары нашае газэты мы аддалі шмат месца антыбальшавізму, у сувязі з афармаваньнем адзінага фронту паняволеных бальшавізмам народаў.

Аднак, на сьвеце ёсьць шмат людзей, якія звыклі думаць, ці й сьведама апэраваць простымі супрацьлежнасьцямі, палярнасьцямі, пры гэтым часта-густа разумеючы іх вельмі прымітыўна, спрошчана, ато й зусім павярхоўна, няглыбака, ці навет проста перакручана, неадпаведна з запраўдным станам рэчаў. Гэткія людзі, чуючы пра антыбальшавізм і добра разумеючы, што гэтым словам абазначаецца, хіба, нешта, сьціраванае супраць бальшавізму, доўга не разумуюць і падстаўляюць пад гэнае «нешта» нейкі іншы «ізм», знаны ім із свае быццам-бы супраць бальшавізму настаўленае існасьці ці скіраванасьці. Адны з такіх людзей добра памятаюць яшчэ, што бальшавізм распаношыўся па здрузгатаньні расейскага царызму, і таму разважаюць вельмі проста: антыбальшавізм — значыцца царызм, разьбіваючы бальшавізм, трэба імкнуцца да аднаўленьня «добрых старых» царскіх парадкаў (тым балей, што за царом «было-ж усяго-усенькага, а як-жа дзешава»...). Другія-ж, як быццам-бы, больш «сучасныя» людзі і разумуюць у больш сучасных тэрмінах, зусім сьвежых яшчэ сваёй памяцяй: для іх антыбальшавізм — гэта значыць фашызм, і выступаючы супраць бальшавізму, мы тым самым быццам-бы імкнёмся да фашызму

Падобнае разумаваньне вельмі падтрымваюць і самі бальшавікі, будучы, фактычна, навет аднымі зь першых і найбольш зацікаўленых [illegible]. Гэта-ж якраз бальшавікі, звыкшы надаваць словам таго сэнсу, які ім патрэбен, ня лічачыся з тым значаньнем пэўных тэрмінаў, якое ўжо цьвёрда ўстанавілася ў сьвеце, нахабна называючы, прыкладам, свой крывавы й брутальны паліцыйна-тэрарыстычны гвалт «дэмакратыяй», — адначасна хрысьцяць «фашызмам» усё тое, што супраць іх, ці што ім наагул не падабаецца. «Фашызм», «фашыстыя» у бальшавікоў даўно сталіся аднымі з найгоршых мянушак і лаянак, якімі шырака карыстаюцца ў іх усе, да людзей цёмных і няпісьменных, да дзяцей навет, вельмі далёкіх яшчэ ад разуменьня чаго-небудзь у палітыцы. З другога боку, тыя-ж бальшавікі заўсёды і ўсюды выстаўляюць сябе самых, як найбольш пасьлядоўных і зацятых, навет проста адзіных у сьвеце «антыфашыстых», стараючыся як мага замацаваць за сабою гэты вылучны манаполь на антыфашызм наагул.

Як-жа выглядае ўся гэтая справа на самой рэчы? Даволі толькі зазірнуць пільней у гісторыю, сказаць дарэчы, не такую яшчэ далёкую ад нас, супаставіць і прадумаць да канца факты, каб прыйсьці да няхібнага высnaвy, што аб ніякіх супрацьлежнасьцях тут ня можа быць і мовы, што бальшавізм і фашызм — гэта ня толькі родныя браты, і навет ня толькі блізьнюкі, а проста ў розных месцах паўсталыя й крыху парознаму, адменнымі «нацыянальнымі формамі» прыбраныя праявы аднае й тае самае існасьці. А за гэтым — ясным станецца й наступны высnaў, што антыбальшавізм і антыфашызм (запраўдны, ведама) таксама ня маюць у сабе нічога супярэчнага ці несумяшчальнага, а наадварот, у існасьці навет павінны станавіць сабою толькі дзьве, і пры гэтым родныя, функцыі аднаго й таго самага сьветагляду й кірунку.

Але трымаймася парадку. Гістарычна фашызм зьявіўся ня сьвет і гэтым сваім імём хрышчаны ў Італіі, але усёй сваёй сыстэмай адразу-ж стнавіў суцэльнае бадай насьледаваньне, навет простае малпаваньне часам, крыху раней дойшлага да ўлады ў Расеі бальшавізму. Пазьнейшы за яго нямецкі фашызм — «нацыянал-сацыялізм» ці проста «нацызм», зьявіўшыся яшчэ крыху па тым, насьледаваў, малпаваў і вучыўся ўжо ад абодвух гэных сваіх папярэднікаў — і італьлянскага і маскоўскага. Усе тры выпрацавалі й кіраваліся аднэю сыстэмаю, збудаванаю на зусім аднолькавых у сваёй існасьці прынцыпах і выходных пазыцыях.

Усе яны, найперш, выходзілі з аднаго, чыста шавіністычнага палажэньня, што кажная зь іхных нацыяў — найлепшая ў сьвеце (хоць расейскі бальшавізм напачатку сарамліва хаваўся з гэтым, аблыжна прыкрываючыся «інтэрнацыяналізмам», і толькі пасьля на поўны голас загаварыў пра «великий русский народ»). На гэтым перакананьні ў кажнага зь іх мацавалася чыста рэлігійная, проста містычная вера ў нейкую сусьветную місію кажнага зь іхных «вялікіх народаў»,

і ўжо другарадная рэч, у чым бачыў кажны гэную місію (расейскія бальшавікі — у ўстанаўленьні «сусьветнае камуны», італьлянскія фашыстыя — у вадбудове «вечнага й сусьветнага Рыму», нямецкія нацыстыя — у заваяваньні сусьветнага панаваньня «арыйскаму», «нардычнаму чалавеку»). Бо ў практыцы ўсе гэтыя ідэі прыводзілі да аднаго — да імпэрыялізму ці то італьлянскае, гэтак і званае «імпэрыі», ці то нямецкага «трэйцага райху», ці то расейска — бальшавіцкага СССР, і вялі да яго зусім адным і тым самым шляхом — шляхом мілітарызму, ваеншчыны й войнаў, дзякуючы чаму ўсе тры — і нямецкі нацызм, і маскоўскі бальшавізм, і італьлянскі фашызм, хоць апошні толькі ў прыпрэжцы — сталіся фактычнымі падпальнікамі нядаўнае другое сусьветнае вайны. Гэты-ж мілітарызм вызначыў і аднолькавую ўва ўсіх трох грамадзка-палітычную сыстэму таталітарызму, абапёртую на чыста-вайсковых арганізацыйных прынцыпах аўтарытэту, субардынацыі й дысцыпліны з завяршэньнем у абсалютнай дыктатуры аднае партыі (італьлянскае фашыстаўскае, нямецкае НСДП, расейскае ВКП (б)] і аднаго чалавека над ёй і над усім — «правадыра» — «дучэ» Мусаліні ў Італіі, «фюрэра» Гітлера ў Нямеччыне, «важдзя» Сталіна ў Расеі. Аднолькавым ува ўсіх трох і фактычна адзіна магчымым у дадзеных абставінах быў і спосаб утрыманьня ўсяго гэтага ладу ў выглядзе тэрарыстычна-паліцыйнага рэжыму, заснаванага на арганізаваным тэроры, гвалце й шпіянажы праз гаспадарстваўскія паліцыйныя органы, зусім ідэнтычныя ў існасьці й навет формах свае дзейнасьці — досыць із большага хоць-бы прыраўнаваць, прыкладам, нямецкае Гестапо і ягоныя «кацэты» да расейскіх ЧК-ГПУ-НКВД-МВД зь іхнымі «концамі». Нарэшце, навет ідэалягічнае, філёзофскае ўгрунтаваньне й найвышэйшае асьвячэньне ўсіх гэтых сыстэмаў выходзіла з адных і тых-жа сьветаглядавых пазыцыяў матэрыялізму, і другарадная, зноў-жа, рэч, што Немцы пры гэтым бралі адменьнік матэрыялізму біялёгічнага, а Расейцы — эканамічнага, што адны апэравалі «расавай», а другія «клясавай» тэорыяй, аднолькава бачачы сэнс жыцьця й гісторыі ў зьвярыным вынішчальным змаганьні, хай сабе адны — у змаганьні расаў, а другія — клясаў, аднолькава ацэньваючы чалавека паводля ягонага паходжаньня, расавага ці клясавага.

Такога абеглага й схематычнага супастаўленьня, якое кажны лёгка можа сам разгарнуць і супоўніць проста бязьмежнай безьлічай фактаў і назіраньняў (хоць-бы й кагадзе апублікаванымі ў ЗША дакумэнтамі нямецка-савецкай прыязьні) — зусім даволі, каб пераканацца ў тым, што аніяк нельга разглядаць бальшавізму й фашызму, як нейкія супрацьлежнасьці, **а можна бачыць у іх толькі розныя нацыянальныя** адменьнікі-варыянты **аднае й тае-ж шавіністычна-імпэрыялістычна-таталітарыстычна-дыктатарска-тэрарыстычна-паліцыйна-матэрыялістычнае сыстэмы.** Нездарма навет само слова «фашызм» ня толькі прыстала ад Італянцаў Мусаліні да Немцаў Гітлера, але лучыла адскокам у тых-жа бальшавікоў Сталіна, кінутае пры гэтым туды нікім іншым, як адным з такіх-жа камуністых і навет «ленінцаў», як сам Троцкі.

Дык цяпер ясна будзе зусім і да канца, чаму і ў антыбальшавізьме ды антыфашызьме таксама няма нічога супярэчнага, чаму, стаючы ўсе больш і больш на антыбальшавіцкія пазыцыі, заходнія дэмакратыі, скажам, зусім ня здымаюць адначасна свайго ранейшага антыфашыстаўскага настаўленьня, чаму ў ЗША, прыкладам, з дырэктывы самога прэзыдэнта й найвышэйшых урадавых органаў дасьледуюць дзейнасьць ня толькі камуністых, але й фашыстых, стараючыся ачысьціцца і ад адных і ад другіх.

Усё гэта мае вялікае значаньне й для нас сяньня. Праўда, у нашай гісторыі мы анідзе ня знойдзем навет ніякага грунту для собскага «фашызму» ні ў цэлым, ні хоць у якім-небудзь паасобным мамэнце — шавіністычнага мэсіянізму, імпэрыялізму, мілітарызму, дыктатарскага абсалютызму, тэрарыстычнае паліцэйшчыны і г. д, і г. д. Аднак, акупацыі нашага краю чужымі фашызмамі — і расейскім бальшавізмам і нямецкім нацызмам — не абыйшліся й не абходзяцца, нажаль, бяз пакіданьня пэўных сьлядоў і ўплываў у выглядзе вытварэньня варожых агентураў у нашым грамадзтве, аж да «квісьлінгаў» улучна — як у бальшавіцкі, так і ў нацыстаўскі бок. І сусьветнае цяпер, дый нашае заўсёднае антыбальшавіцкае настаўленьне не дае нам права таксама забывацца на настаўленьне антыфашыстаўскае і ўжо рэабілітаваць нашых айчынных «квісьлінгаў» — пакліканых фашыстымі «правадыроў» і «прэзыдэнтаў» твораных імі марыянэткавых «урадаў» і «радаў», а тым балей дапушчаць іх сяньня да выяўленьня нацыянальнае ініцыятывы (дый яшчэ на пярэднім пляне), ці аж выпіраць іх на чало нацыянальнае рэпрэзэнтацыі. Бо такое выпіраньне аб'ектыўна можа выглядаць толькі на адно — на вялізманую правакацыю, ськіваваную на тое, каб падставіць пад удар ці навет разгром увесь наш нацыянальны рух. Бо кажны «квісьлінг», бяз увагі на тое, ці быў ён такім фактычна, ці толькі «тактычна», рэальна, ці толькі «фармальна», «квісьлінгам» і застанецца, аж пакуль не разгледзіць ягонае справы, не асудзіць ці абязьвініць запраўдны народны суд на вольнай нацыянальнай і незалежнай Бацькаўшчыне, дзе можа ня так і забудуцца ці затруцца сьляды ягонае дзейнасьці — ці то добрыя, ці то й благія... Пакуль-жа да такога суда — кажны такі асабень можа толькі сьціпла й напорна працаваць на дабро свайго народу і гэтым толькі зарабіць сабе магчымасьць для шырэйшае дзейнасьці ў далейшым, а ніяк не неабдуманымі, а аб'ектыўна глыбока — правакацыйнымі крокамі недалёкага й нізкавокага самасуйства.

Над гэтым усім каму-не-каму, а можа й шмат каму сьлед добра спыніцца й задумацца...

## КАРОТКІЯ ВЕСТКІ

* Брытанскі ўрад запрапанаваў Францыі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу зрабіць умову пяцёх гаспадарстваў, якая павінна стацца за аснову заходня-эўрапейскай арганізацыі гаспадарстваў. Міністры замежных справаў Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу вітаюць гэтую прапанову.

* Із колаў брытанскага міністэрства замежных справаў паведамляецца, што на 19-га лютага плянуецца канфэрэнцыя трох гаспадарстваў у справе Нямеччыны. Францускае радыё падае, як тэрмін гэтае канфэрэнцыі, 29 лютага.

* Францускі нацыянальны збор выказаў давер ураду (327 галасамі супраць 241) і ўхваліў адцягнуць із курсаваньня ўсе банкноты па 5 тыс. франкаў, што становіць больш за 1/3 усіх банкнотаў, якія знаходзяцца ў звароце. Таксама ад 2 лютага ў Францыі адчыняецца вольны рынак для даляраў і партугальскае валюты.

* Камуністыя страцілі ў францускім парлямэньце 3 старшынскія пасады ў важнейшых камісіях (замежных справаў, нутраных справаў і сельскае гаспадаркі).

* Неўзабаве мае зноў адчыніцца француска-гішпанская мяжа, спачатку для падарожжаў, тады для інфармацыі й нарэшце для таварнага руху.

* Генэрал Эйзэнгаўэр заявіў, што ён адхіліць сваю кандыдатуру пры выбарах у амэрыканскія прэзыдэнты, навет калі-б яна была яму запрапанаваная.

* Прэзыдэнт Труман заявіў, што амэрыканскі ўрад разважае магчымасьць увядзеньня картак на мяса.

* Чылійскі ўрад трымае заложнікамі 25 савецкіх падданых, бо саветы не выпушчаюць у Чылі жонку сына былога чылійскага пасла ў Маскве, як савецкую падданую.

* Чылійскі прэзыдэнт вымагаў ад усіх урадаўцаў разарваньня ўсіх сувязяў з камунізмам.

* Прэзыдэнт Дамініканскае рэспублікі перасьцерагае свой народ перад інвазіяй рэвалюцыйных сілаў, што мабілізуюцца ў Вэнэцуэле, каб ськінуць дамініканскі ўрад.

* У Буэнос-Айрэсе памёр гэрцаг Аоста, пляменьнік былога італьлянскага караля, які ў часе вайны быў «харвацкім каралём».

* У часе пераацэны рубля ў СССР расейская праваслаўная царква ўпяршыню была прызнаная за гаспадарстваўскую арганізацыю. Царкоўныя грошы выменялі рубель за рубель.

* Былы румынскі кароль Міхаль афіцыйна заручыўся з прынцэсай Ганнай Бурбон-Пармскай.

* На 31. 12. 47 г. у лягерах амэрыканскае зоны налічвалася 323.084 ДП.

**Н. НЕДАСЕК**

# 1917 - 1947

### Да трыццатых угодкаў найвызначнейшых падзеяў нашага нацыянальнага руху

(Канец *)

### Усебеларускі Кангрэс — агульнанацыянальная рэпрэзэнтацыя

Першы Ўсебеларускі Кангрэс і адчыніўся ўрачыста 18 (5) сьнежня 1917 г. у будынку Менскага Гарадзкога Тэатру. Зьехалася на яго 1.872 дэлегаты, зь якіх 1.167 мела пастаноўны, а 705 дарадны голас. Сярод дэлегатаў з пастаноўным галасам 800, г. зн. 55% належала сялянскай і работніцкай масе, 22% — працоўнай інтэлігенцыі таго самага сялянскага ці работніцкага паходжаньня. Такім парадкам, 87% дэлегатаў рэпрэзэнтавала беларускі працоўны народ, і толькі 13% прыпадала на долю іншых сацыяльных групаў. Гэткі склад дэлегатаў бадай зусім дакладна адлюстроўваў сацыяльную структуру ўсяго нашага народу на тым этапе, і з гэтага гледзішча агульнанацыянальная, запраўдная «ўсебеларуская» рэпрэзэнтацыйнасьць Кангрэсу не падлягае ніякай няпэўнасьці.

І з тэрытар'яльнага гледзішча Кангрэс меў такую-ж поўную рэпрэзэнтацыйнасьць, прадстаўляючы сваймі дэлегатамі увесь абсяг нашае нацыянальна-этнаграфічнае тэрыторыі — ня толькі ейнае ўсходняе часткі (Меншчыны, Віцебшчыны, Магілеўшчыны, Смаленшчыны), але й заходняе, у тым часе акупаванае Немцамі (Віленшчыны й Горадзеншчыны), аднак рэпрэзэнтаванае на зьезьдзе дэлегатамі ад уцекачоў, што станавілі тады вялізарную масу жыхарства гэных мясцовасьцяў.

Асобна трэба адзначыць, што сярод удзельнікаў зьезду было 716 вайсковых дэлегатаў. Дык была, такім парадкам, і вельмі паважная рэпрэзэнтацыя змабілізаваных і ў вайсковасьць уцягнутых пластоў народу, колькасна вельмі ўзрослых за папярэднія гады першае сусьветнае вайны.

Наагул, што да рэпрэзэнтацыйнасьці Кангрэсу, дык можна толькі падзяліць аўтарытэтныя словы аднаго зь ягоных удзельнікаў, пазьнейшага Прэзыдэнта Беларускае Народнае Рэспублікі Пётры Крачэўскага: «Шматлюднасьць Зьезду гавора сама за сябе, бо ніводная нацыя за пэрыяд вялікае расейскае рэвалюцыі не дала такое колькасьці ўдзельнікаў і, натуральна, воля народу на ім была выяўленая зусім заканамерна, гэтага ня будзе й ня мае права аспрэчваць ніхто». Таксама і ў дачыненьні да нацыянальнага характару гэтае рэпрэзэнтацыйнасьці: «Тымчасам, як на ўсіх зьездах разбушаванае расейскае рэвалюцыі дамінавалі ўплывы прадстаўнікоў не маскоўскае нацыі, як бальшыні, а нацыяў сама нязначнае колькасьці, як Жыды, Латышы й інш. — на Ўсебеларускім Зьезьдзе прадстаўніком быў запраўдны Беларускі Народ — сяляне, жаўнеры й верная народу група інтэлігенцыі без усякае пабочнае дамешкі іншых нацыяў. Тутака ня было ні Жыдоў, ні Палякоў, ні Латышоў, і толькі кантрабандным спосабам трапіла колькі «таварышоў» з Маскоўцаў, што прыехалі з выразнай мэтай справакаваць зьезд, што-б там ня было». (П. Крачэўскі Хто быў на першым Ўсебеларускім Зьездзе? Часапіс «Варта», № 1 за 1918 г., бал. 34).

### Змаганьне на Кангрэсе

Бальшыня Кангрэсу падтрымвала Вялікую Беларускую Раду й ейны нацыянальны кірунак, «абласьнікі» із сваім прарасейскім рэгіяналізмам апынiліся ў выразнай мяншыні. Паводля тэрытарыяльных дэлегацыяў прыхільнікі абодвых кірункаў разьмеркаваліся так, што дэлегацыі Віленшчыны, Горадзеншчыны, Меншчыны і, што асабліва характэрна, Смаленшчыны былі апораю нацыяналістых зь «Вялікае Рады», тымчасам як рэгіяналістыя — «абласьнікі» мелі некаторы грунт толькі ў дэлегацыях Віцебскага й Магілеўскага «земстваў». Гэтае дачыненьне сілаў адлюстравалася і ў выбарах кіраўнічых асобаў Кангрэсу: за старшыню яго стаўся нацыяналісты з «Рады» др. І. Серада, толькі на заступніка быў абраны адзін із правадыроў «абласьнікоў» Вазіла. У сакратарыяце нацыяналістыя мелі таксама такія выдатныя асабістасьці, як Алесь Прушынскі (паэта Алесь Гарун) і Тамаш Грыб, гвалтоўная бальшыня іхная была і ў вабранай Кангрэсам у складзе 71 сябра ягонай Радзе — «Радзе Старэйшых».

«Абласьнікі» адразу ўзялі курс на зрыў Кангрэсу праз правакацыю, абструкцыю й простую дывэрсію — курс, пачаты імі, зрэшты, яшчэ ў іхнай «Дэклярацыі» ад 30 (17) лістапада зь ейнай стаўкай на перахапленьне ініцыятывы ў свае рукі праз адтэрмінаваньне зьезду. Для абструкцыі й правакаваньня інцыдэнтаў выкарыстоўваліся бясконцыя прывітаньні, што не давалі зьезду заняцца рэчавай працай. Гэтак, адным із такіх «прывітаньняў» быў справакаваны інцыдэнт з абразай нацыянальнага сьцягу, які быў публічна названы «анучай», што выклікала бурна падтрыманую бальшынёй адказную дэманстрацыю дэлегата — старога генэрала, які тут-жа пацалаваў абражаны сьцяг. Другі інцыдэнт у часе адпору аднаму зь Віцебскіх «тоже-белоруссов», што спрабаваў публічна бэсьціць усю нацыянальную справу, «абласьнікі» спрабавалі разыйграць, як «абразу зьезду», але таксама няўдала. Прывітаньне аднаго сьвятара, задэкляраванага прыхільніка й навет умандатаванага прадстаўніка «ўлады саветаў» (адзін із характэрных кур'ёзаў таго часу), які спрабаваў угрунтаваць непадзельнасьць «трыадзінага рускага народу» на «Вялікарусаў, Маларусаў і Беларусаў» параўнаньнем да неразлучнасьці асобаў Сьв. Тройцы — таксама выклікала даволі бурны інцыдэнт, хоць і больш камічнага характару. Нарэшце, «абласьнікі» спрабавалі й проста самачынна распусьціць зьезд, арганізаваўшы праз сваю ўзброеную прадстаўніцу з Магілеўшчыны «абмен» дэлегацкіх мандатаў на адпускныя карткі для разьезду дэлегатаў па дамох. Але й гэтая спроба была разьбітая.

Аднак, «абласьнікі» мелі за сабою вонкавае падтрыманьне ў васобе бальшавікоў, што пасьля свае кастрычніцкае рэвалюцыі 1917 г. ужо кантралявалі ўладу па ўсім прасторы былое расейскае імпэрыі, хоць яшчэ й далёка ня мелі свае пазьнейшае моцы. Фактычна, «абласьнікі» й ліпелі пры бальшавіцкім «савеце». Праўда, бальшавікі таксама паслалі былі на Кангрэс і сваю собскую дэлегацыю зь 10 асобаў зь Пецярбургу, але яна чулася гэтак слаба, што ня важылася навет выткнуцца дзеля выкананьня дадзенага ёй у «цэнтры» заданьня — нахіленьня Кангрэсу да праклямаваньня савецкае гаспадарстваўскае сыстэмы на Беларусі. Калі-ж прыняцьцём свае першае рэзалюцыі аб рэспубліканска-дэмакратычнай сыстэме Кангрэс наагул унемагчыміў выкананьне гэтага заданьня — вонкавая інтэрвэнцыя бальшавікоў, як ведама, сілаю ўзброенага гвалту зусім спыніла дзейнасьць Кангрэсу.

### Перарост Кангрэсу ў Гаспадарстваўскую Канстытуанту

Пасьля папярэдніх гарачых і зацяжных дыскусіяў над рознымі агульнымі й абсяжнымі праблемамі, характэрных наагул для ўсіх бадай сходаў і зьездаў таго рэвалюцыйнага часу, а тут яшчэ больш зацягваных успомненымі вышэй спробамі правакацыі, абструкцыі й дывэрсіі, — Кангрэс нарэшце 30 (17) сьнежня 1917 г. перайшоў да сфармуляваньня першых сваіх пастановаў. Найпершым, зусім прыродна, стаяла кардынальнае пытаньне аб гаспадарстваўскім ладзе нашага краю.

---

*) Пачатак гл. у № 1 (4) нашае газэты. Дзеля тэхнічных прычынаў, пачатак мусіў друкавацца зусім без карэкты, і таму меў шмат памылак друку. Цяпер уся цэласьць выходзіць асобным адбіткам-брашурай (выпісаць можна праз нашую адміністрацыю, цана 2.— н. м.). — Рэд.

